



Свабода, справядлівасць, салідарнасць

# ГРАМАДА

**№23 студзень-сакавік 2001**

**Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай гарадской арганізацыі Грамадскага Аб"яднання "МАЛАДАЯ ГРАМАДА"**


***Рэальнасць падпарадкоўвае слабейшых, а моцны духам рамантызм змагаецца і накрэслівае новыя шляхі будучыні.***

**Пётра Крэчэўскі**
**Першы прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі**

# Шаноўнае спадарства, ад шчырага сэрца віншуем вас з Днём Волі – святам, якое падаравалі нам мужныя продкі!

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ГРОДНЕ

**Чарговая гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі стала святам для адных і “цяжкай” працай для іншых…**

А ўсё пачыналася як заўсёды: група гарадзенцаў падала ў гарвыканкам заяву на правядзенне святочнага мітынгу на плошчы Леніна. Як заўсёды чыноўнікі “адправілі” людзей (а як аказалася 25 сакавіка каля 2000 жыхароў горада) святкаваць на сабачнік – так званы Новы парк. Не пагадзіўшыся з “прапанаванай” праграмай, удзельнікі святочнага мерапрыемства пачалі збірацца на плошчы Леніна. “Цяжка” працуючыя АМАПаўцы, міліцыянты (у тым ліку і высокія чыны з РАУСаў) выцеснілі грамадзян з месцу збору ў гарадскі сквер. Шмат “шэраговых” міліцыянтаў чакалі, дарэчы, каманды на сваіх працоўных месцах, у падворках.

У самым пачатку свята былі запушчаныя ў неба балонікі з падвязаным унізе бел-чырвона-белым сцягам.

Супрацьстаянне паміж натоўпам і служакамі працягвалася каля гадзіны. Урэшце грамада рушыла ў бок Савецкай вуліцы, але мусіла спыніцца… Стаяў кардон. Людзі седзячы – хто на зямлі, хто на кукішках – параіліся і вырашылі ісці па вуліцы Горкага ў парк імя 40-годдзя ВЛКСМ. Па дарозе кардон выстрайваўся яшчэ адзін раз. Нягледзячы на ўсе перашкоды з боку міліцыі дэманстранты ўсё ж такі дайшлі да Каложскай царквы, дзе адбыўся мітынг. Таксама былі ўскладзеныя кветкі і сцягі да “Пагоні на Грунвальд”, выявы Вітаўта. Абышлося, дзякаваць богу, без патасовак, пра якія таварыш Пашкевіч распінаўся ў сваіх інтэрвью задоўга да 25 сакавіка.

Нягледзячы на напружанаць супрацьстаяння, свята тым не менш адбылося.

Відавочна, што ўладам не падабаецца свята 25 сакавіка. Не падабаецца ім таксама, што некалі быў зроблены крок да сапраўднай беларускай незалежнасці. Так, у 2000 годзе падчас святкавання Дня Волі ў Гародні ўпершыню “чарапашкі-ніндзя” (доблесныя амапаўцы ў поўнай амуніцыі) выйшлі на вуліцы горада, каб перашкодзіць мірнаму шэсцю. У гэтым годзе сітуацыя паўтарылася, толькі з яшчэ большай колькасцю міліцыянтаў і амапаўцаў. Як сказаў адзін мой сябар: “Калі б гэта не было так сумна, то было б весела”.

Што асабіста да мяне, то гэтыя людзі ў форме зусім не напужалі сваім выглядам. Наадварот, я яшчэ раз упэўнілася, што буду змагацца за Беларусь, за яе незалежнасць пры любых абставінах. Спадзяюся, што вельмі хутка мы будзем успамінаць пра гады праўлення дыктатара, як аб страшным сне, які ўжо скончыўся, і наперадзе чакае нас толькі светлае і чыстае.

Не абышлося, нажаль, без эксцэсаў. Па-звярынаму быў збіты журналіст гродзенскай газеты “Біржа інфармацыі” Дзіма Ягораў. Мы зычым яму хутчэйшага выздараўлення. Такіх жа міліцыянтаў можна назваць толькі ментамі. Збіваць хлопца іх ніхто не прымушаў. Відавочна, што ў сям'і не без вырадкаў, але дзе ж высокія чыны? Магчыма такія дзеянні імі адабраюцца, і менавіта гэта палохае простых грамадзян.

Не абышлося таксама і без традыцыйных позваў у суд за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця і мітынгу. Адзін вынік судовага разбіральніцтва нам ужо вядомы. Намесніцу гродзенскай “Маладой Грамады” добравядомы суддзя А. Ярашэвіч апраўдаў: сведкі-міліцыянты не былі ў стане дакладна акрэсліць “віну” дзяўчыны. Да Вадзіма Саранчукова, старшыні гродзенскага “Маладога Фронту”, а таксама старшыні БНФ Сяргея Мальчыка чарга прыйдзе таксама. “Іх” суддзём будзе спадар Дземчанка.

**Вольга Філіповіч**

*Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе стала апошнім часам для рэжыму на Беларусі тэмай для шматлікіх здзекаў па тэлебачанні, радыё, прэсе. Новаўтвораная дзяржава (калі дакладней, яе кіраўнікі) абвінавачваюцца ў грахах па сённяшні дзень.*

*Але, нягледзячы на ўсе “хібы” тагачасных і сённяшніх, у эміграцыі, кіраўнікоў, варта паглядзець на БНР зусім іншымі вачыма.*

*Уявіце сабе, што пасля Вялікага Княства Літоўскага абвяшчэнне незалежнай беларускай дзяржавы стала першай спробай аднавіць свой суверынітэт. З вышыні сённяшняга дня лёгка разважаць хто меў рацыю, хто застаўся вінаватым. Але адно дакладна: і 80 гадоў таму і сёння толькі “моцны духам рамантызм… накрэслівае новыя шляхі будучыні”. Менавіта ў 1918 годзе эліта беларускага грамадства накрэсліла шляхі на незалежнасць беларускай дзяржавы, раўнапраўныя адносіны яе з іншымі дзяржавамі, што так не дае спакою сённяшнім уладам на Беларусі.*

*Каб пазбавіцца некаторых міфаў, звязаных з БНР, прапануем вашай увазе* ***матэрыял Сяргея Навумчыка на 5 староны.***

# БЮДЖЕТ 2001

**Пока еще рано подводить какие-либо итоги года, но уже можно строить планы на будущее. Окончательно принят бюджет Республики Беларусь на 2001 год, посмотрим какие в нем перспективы.**

Формула беларуского бюджета проста: доходы должны составить 3223 млн. $ расходы 3471 млн. $ расчеты в усл. ед. при нынешнем курсе просты и наглядны. Что бы доходы сходились с расходами, необходимо изыскать 247 млн. $ (в ценах осени 2000), если оценивать масштабы наших затрат и учитывать стремление сэкономить на любой мелочи – это много. При этом экономическая политика образца 2001 года строится в расчёте на поддержание устойчивости рубля и обменного курса при одновременном стимулировании доходов. Особый интерес вызывают предложения продать акции госпредприятий и иного имущества почти на 100 млн. $ словом профинансировать дефицит нового бюджета будет не просто.

Источники доходов: основные источники беларуского бюджета в будущем году просты и понятны. Основные доходы бюджета – это НДС налог на прибыль, акцизы и подоходный налог. Доходы республиканского бюджета должны составить 3223 млрд. руб. 56,6%, а доходы местных бюджетов – 2471 млрд. 44,3%

В чью пользу выбор? в отличие от России, где налогоплательщик будет отдавать в госбюджет 13% своих доходов, в Беларуси схема пополнения казны не меняется. Беларусы должны отдавать до 30%. При этом Минфин прогнозирует среднюю зарплату в размере 96 – 103 тыс. руб. при среднем обменном курсе 1400 за 1$. Это значит, что заработки в народном хозяйстве составят примерно 74$ в месяц. Это противоречит замыслу руководства государства повысить средние доходы до отметки 100$. По прогнозу в конце 2001 года 1$ будет стоить 1600 руб. т.е. девальвация намечается серьезная. Единственный плюс в такой ситуации, но больше минус - поддержка инфляционной динамики на уровне 162 – 173% годовых. Правительство и нац. Банк считают, что им удастся удержать инфляцию в рамках 2,5-3,5 % в месяц.

Цели из года в год ставятся благие, но для их реализации необходимо сдерживать бюджетные расходы, ужесточать денежную политику, а эти условия не соблюдаются.

Кому и сколько тратить вопрос риторический: в проекте бюджета все расписано, структура его расходов прозрачна – почти как слеза. Капитальные расходы – 24%, закупка товаров и услуг – 40%, субсидии и текущие трансферты – 33%, выплата процентов – 3%.

Из текущих расходов самыми весомыми (294 млрд. руб.) будут затраты по статье "прочие текущие расходы" (здесь слеза несколько мутнеет). Беларуское правительство осуществит закупку продуктов питания на 58 млрд. и канцелярские принадлежности на 12 млрд. На зарубежные командировки уйдет 13 млрд. Услуги научно-исследовательских организаций обойдутся всего в 1 млрд. Государственные расходы на национальную оборону составят всего 2,6% от общих расходов бюджета. На обеспечение внутренней безопасности будет потрачено в 2 раза больше средств.



Резюме анализа бюджета подтверждает – революции в фискальной политике ожидать не стоит с одной стороны это не плохо, но с другой в 2001 году всем нам придется заплатить налогов (в абсолютном исчислении) в 2 раза больше. Принципы формирования беларуского бюджета не изменились. По-прежнему не совсем понятно, как получить деньги на финансирование дефицита бюджета: напечатать или что-то продать? Правительственные эксперты уверенны: для реализации модели развития 2001 года стране потребуется привлечь прямых инвестиций на сумму от 300-т до 400-т млн. $.

**Информация подготовлена по материалам журнала "ДЕЛО" Кудряшовым Дмитрием при содействии Андрея Мельникова**

**Продолжение темы на 3 странице.**

# ЛУКАШЭНКА ПАДЗЯЛІЎ НАШЫ ГРОШЫ

**Бюджэт па расходах на 2001 год пазначаны сумай 3 471 000 788 тыс. руб. Іх дзяржава плануе ўзяць у выглядзе падаткаў і адлічэнняў з прыбыткаў працоўных калектываў, у якіх мы працуем.**

*Выдаткі бюджэту па некаторых артыкулах:*

| | | |
|---|---|---|
| ***На сілавыя ведамствы*** | **446.539.030** тыс.руб | |
| З іх: | | |
| ***Армія*** | **152.213.855** тыс.руб. | |
| ***Міліцыя і КДБ*** | **280.590.758** тыс.руб | |
| ***Суды і пракуратура*** | **13.734.417** тыс.руб | |
| ***На прамысловасць, энергетыку, будаўнічы комплекс*** | | **35.416.600** тыс.руб |
| ***На жыллёва-камунальную гаспадарку*** | | **900.988** тыс.руб |
| ***У бюджэт саюзу з Расіяй*** | | **38.294.000** тыс.руб. |
| (у 40 разоў болей, чым на ўсю жыллёва-камунальную гаспадарку краіны) | | |
| ***Упраўленню справамі прэзідэнта*** | | **42.489.759** тыс.руб |
| ***Службе бяспекі (ахове) прэзідэнта*** | | **42.489.604** тыс.руб |
| ***На БПСМ (лукашэнкаўскі камсамол)*** | | **1.535.686** тыс.руб |
| ***Беларускаму таварыству інвалідаў*** | | **114.958** тыс.руб |
| ***Нацыянальнай Акадэміі Навук*** | | **3.687.760** тыс.руб |
| ***Культуры, мастацтву, кінематаграфіі*** | | **20.363.459** тыс.руб |

На пачатак снежня 2000 года 1$ - 1150 бел.руб.

# ЦЭЛЫ СВЕТ

**Пару дзён таму давялося атрымаць па электроннай пошце ліст-аповяд пра нашае сусветна-супольнае жыццё ад сябра з Польшчы. Хацеў бы таксама адрасаваць яго і вам, спадарства чытачы. Прызнайцеся пасля прачытання: вы ведалі пра гэта раней?**

Уяві сабе праз хвіліну, што нам удалося зменшыць цэлы свет да памераў вёскі населенай дакладна 100 людзьмі, якая ўтрымлівае ўсе ўласцівасці ў рэальных прапорцыях. Тады свет выглядаў бы больш-менш так – сярод жыхароў акажацца:

*57 азіятаў, 21 еўрапеец, 14 амерыканцаў, 8 афрыканцаў*
*52 жанчыны, 48 мужчын*
*70 каляровых, 30 белых*
*70 нехрысціян, 30 хрысціян*
*89 гетэрасэксуалаў, 11 гомасэксуалаў*
*6 асобаў выпадала б 59% сусветнага багацця*
*70 непісьменных*
*50 галадаючых*
*1 памірае, 1 нараджаецца*
*1 мае камп'ютэр*

Калі задумацца хаця б на хвілінку над усім гэтым, то вельмі проста дайсці да высновы, што ТЫ і Я маемся нядрэнна, праўда?

Падумай таксама над тым, што калі ты ўстаў сёння зранку і чуешся хутчэй здаровым, чым хворым, то ты нашмат больш шчаслівы, чым той мілён людзей, якія памруць напрацягу бліжэйшага тыдня.

Калі ты не меў страху ў барацьбе, не быў зняволены ці не галадаў, то маеш шчасця больш, чым 500 мільёнаў людзей, якія праз гэта прайшлі.

Калі ты маеш харчы ў халадзільніку, больш-менш добрую вопратку, дах над галавой і такі-сякі ложак для сну, то ты багацейшы чым 75% людзей на свеце.

Калі маеш грошы ў банку, панчосе, кашальку ці хаця б трохі дробных, то ты належыш да тых 8% самых багатых людзей.

Калі ты можаш чытаць гэты ліст, то павінен быць двукротна шчаслівым – ёсць нехта, хто напісаў табе гэты ліст, а таму ты яшчэ шчаслівейшы, чым 2 мільярды людзей на свеце, каторыя не могуць нават чытаць.

Калі гэты ліст прачытаюць твае калегі, сябры, то, магчыма, ён патлумачыць хоць на момант сэнс нашага жыцця.

Бачыш, не так усё дрэнна ў тваім жыцці, нават добра. Падумай пра іншых!

## СЯРЭДНЕМЕСЯЧНЫ ЗАРОБАК

Як вы лічыце, што з'яўляецца крытэрыем дабрабыту грамадзян? Ёсць розныя меркаванні, аднак самы паказальны – сярэднемесячны заробак. Паспрабуйце дакажыце ў заходніх краінах, што памяншэнне рэальнага заробку ёсць прымета стабільнасці і павышэння жыццёвага ўзроўню. У Беларусі гэта магчыма. Нас кормяць абяцанкамі-цацанкамі вось ужо колькі год. У постсавецкіх краінах абяцанні, няхай і павольна, але пераўтвараюцца ў рэальны дабрабыт грамадзян. Пасля размоваў з палякамі, літоўцамі ўжо не здаецца, што Беларусь – людскі рай, пра які гавораць беларускія дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

Больш яскрава, чым прыватныя размовы, сведчаць лічбы. Прапануем табліцу сярэднемесячнага заробку (у доларах ЗША) у некаторых Усходнееўрапейскіх краінах, у тым ліку і Беларусі, у 1995 і 1999 гадах.

*Па крытэрыях ААН жабрацтва адпавядае даходу ў 1 долар у дзень на чалавека. Беднасць вымяраецца даходам у два долары ў дзень на чалавека. Мяркуйце самі...*

| *Краіна* | 1995 | 1999 |
|---|---|---|
| **Польшча** | 285 | 370 |
| **Латвія** | 161 | 246 |
| **Чэхія** | 308 | 363 |
| **Эстонія** | 186 | 324 |
| **Літва** | 163 | 281 |
| **Беларусь** | 100 | 70 |



# РОДНАЯ СТАРОНКА

**25 сакавіка 1918 года – пачатак цяжкага шляху беларусаў да набыцця сапраўднай незалежнасці краіны. Праблема, якая вырашалася амаль стагоддзе назад, на жаль, застаецца і зараз вельмі актуальнай. А таму мы павінны ўзяць з мінулага вопыт змагання і барацьбы. Для гэтага трэба ведаць гісторыю.**

БНР – беларуская дзяржава, абвешчаная ў 1918 годзе. Лозунг БНР упершыню прагучаў у 1917 на Усебеларускім з'ездзе ў Мінску. Незалежніцкія настроі ў беларускім руху ў значнай ступені былі выкліканыя палітыкай Часовага ўрада Расіі, які не хацеў лічыцца з патрабаваннем беларускіх арганізацый аб наданні Беларусі статуса аўтаноміі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, а таксама палітыкай Савета Народных Камісараў Расіі, які вёў перамовы з Германіяй аб лёсе Беларусі без удзелу ў іх прадстаўнікоў беларускага народа. Незалежніцкія тэндэнцыі ўзмацніліся пасля разгону Ўсебеларускага з'езда і пасля таго, як III Усерасійскі з'езд Саветаў ухваліў гэты разгон. 20.02.1918 года была прынята Першая Ўстаўная грамата да народаў Беларусі і створаны першы ўрад Беларусі – Народны Сакратарыят на чале з Варонкам. Фармальна беларуская дзяржава яшчэ не была абвешчана. 09.03.1918 года Выканкам Рады Усебеларускага з'езда прыняў Другую Ўстаўную грамату да народаў Беларусі. Краіна абвяшчалася Беларускай Народнай Рэспублікай. Закладваўся канстытуцыйны лад БНР як дэмакратычнай дзяржавы.

А восьмай гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года была прынята Трэцяя Устаўная грамата. Ад гэтага часу Беларусь абвяшчалася незалежнай і свабоднай. У якасці дзяржаўных былі ўзаконены бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня".

Вялікіх поспехаў БНР дасягнула ў развіцці асветы і культуры. Яшчэ ў перыяд акупацыі германскімі войскамі заходняй часткі Беларусі ў 1915-1917 былі адчыненыя 89 беларускіх школ, настаўніцкія курсы ў Вільні і настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы. Працаваў беларускі прытулак для сірот "Золак". Выходзілі газеты "Гоман" і "Беларус", быў заснаваны Беларускі клуб з тэатрам Аляхновіча, беларуская бібліятэка і кнігарня, бюро для падрыхтоўкі падручнікаў.



**Першы ўрад БНР**

Пасля абвяшчэння БНР Народны Сакратарыят прыняў пастанову аб дзяржаўным статусе беларускай мовы. Паводле розных падлікаў, працавала ад 150 да 350 беларускіх школ.

У 1918 годзе заснавана Мінская вышэйшая музычная школа, якая ў тым жа годзе была перайменавана ў Беларускую кансерваторыю. Была адчынена таксама Каталіцкая духоўная семінарыя. У планах урада БНР было і адкрыццё сельскагаспадарчага і палітэхнічнага інстытутаў.

У 1918 годзе створана першае беларускае навуковае таварыства ў Вільні. На аснове калекцый І.І.Луцкевіча ў Вільні і Мінску была праведзена першая мастацкая выстаўка. Тады ж былі ўведзены паняцці "беларускае мастацтва" і "беларуская школа малярства".

Такім чынам, у БНР разгарнуўся шырокі культурна-асветніцкі рух.

У палітычнай жа сферы краіны далёка не ўсё было такім паспяховым. Незалежнасць БНР не адпавядала інтарэсам суседніх дзяржаваў. У Расіі і манархісты, і бальшавікі, і дэмакраты лічылі Беларусь неад'емнай часткай сваёй дзяржавы. Украіна і Літва мелі прэтэнзіі на беларускія тэрыторыі. Польскія палітычныя арганізацыі бачылі ў складзе будучай польскай дзяржавы ўсю Беларусь (правыя), або яе заходнюю і цэнтральную часткі (сацыялісты). Праціўнікамі беларускай дзяржаўнасці з'яўляліся польскія і рускія арганізацыі на Беларусі, а таксама пэўныя яўрэйскія колы, якія арыентаваліся на мову і культуру "вялікіх" народаў і мелі эканамічныя інтарэсы за межамі краіны. Германія разглядала Беларусь як акупаваную расейскую тэрыторыю.

Народны Сакратарыят дамагаўся міжнароднага прызнання БНР. Урад Украіны прызнаў беларускую дзяржаву. У Кіеве было адчынена генеральнае консульства, у Адэсе – консульства БНР, а таксама ў Літве. Дыпламатычныя місіі былі накіраваныя ў Варшаву, Берлін, Берн, Капенгаген.

Поспехі ў дзяржаўным будаўніцтве былі абмежаваныя таму, што Германія замінала развіццю беларускай дзяржаўнасці. Пасля эвакуацыі нямецкіх войскаў БНР засталася безабароннаю не толькі перад бальшавікамі, але і перад польскімі легіёнамі...

**Падрыхтавала Вольга Філіповіч**

# ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ

**Беларуская мова багатая на фразеалагізмы — гэтыя маляўнічыя, вобразныя сродкі выказвання думак і пачуццяў. Яны складаюць багацце мовы. Вывучэнне, веданне гэтага багацця, умелае валоданне ім — неабходная ўмова павышэння моўнай культуры кожнага, хто даражыць родным словам.**

Знешне фразеалагізмы ў сваёй пераважнай большасці падобныя на звычайныя, свабодныя словазлучэнні, але адрозніваюцца ад іх сваёй складанай прыродай. Яны шырока выкарыстоўваюцца і ў звычайных паўсядзённых моўных зносінах, і ў мастацкай літаратуры.

У гэтым нумары прапануем вам фразеалагізмы на першыя дзве літары алфавіту. Магчыма, некаторыя з іх будуць для вас дагэтуль незнаёмымі і цікавымі.

**Адна трасца.**
Тое самае, аднолькава, няма розніцы.
**Ажаніцца з сырою зямелькаю.**
Памерці, загінуць.
**Акунёў вудзіць.**
Драмаць, спаць.
**Аслаблі гайкі (у каго).**
Хтосьці вельмі спалохаўся.
**Атрапаць рукі (ад чаго).**
Пазбыцца чагосьці.
**Бакі рваць.**
Смяяцца, рагатаць ад стомы.
**Без клёпкі (без клёпак у галаве).**
Прыдуркаваты, з дзівацтвам.
**Бібікі біць.**
Марнаваць час, гультаяваць.
**Блёкату аб'еўся.**
Здурэў, ашалеў.
**Бог бацька.**
1 Будзе відаць, як і што; неяк будзе, горш не будзе. Як выказванне спадзявання на лепшае.
2 Калі пашанцуе.



**Бочку арыштантаў (нагаварыць).**
(Нагаварыць ) занадта многа абы-чаго, без разбору.
**Быкам хвасты круціць.**
Рабіць тое, што не патрабуе ўмення, кемлівасці.
**Быў на возе, пад возам, упоперак, уздоўж.**
Пра таго, хто бываў у розных жыццёвых абставінах, у цяжкім ці непрыемным становішчы.
**Быў на кані і пад канём.**
Усяляк прыходзілася: і добра, і кепска.

**Вольга Філіповіч**

# ПЯЦЬ МІФАЎ ПРА БНР І ЯЕ РАДУ

*Сяргей НАВУМЧЫК, намеснік старшыні Рады БНР*

**З надыходам 25 сакавіка — гадавіны ўтварэння БНР — афіцыйныя тэлебачанне, радыё ды прэса актывізуюць тэорыі, створаныя яшчэ ў камуністычныя гады пра адноўленую беларускую дзяржаву. Шмат выдумляецца і пра найвышэйшы орган БНР — Раду. Камуністычных лектараў змяняюць лукашэнкаўскія, да старых міфаў дадаюцца новыя, але мэта, калі выказаць яе коратка, застаецца ранейшай — скампраметаваць БНР і яе Раду, даказаць, што беларусы няздольныя пражыць асобна ад Расіі, няздольныя ўвогуле стварыць незалежную дзяржаву. На некаторых з такіх міфаў і хацеў бы спыніцца.**

**1. Нібыта нельга казаць пра існаванне паўнавартаснай дзяржавы, паколькі БНР не была прызнаная большасцю дзяржаваў.**

Большасцю дзяржаў не былі прызнаныя і Савецкая Расія, а потым і Савецкі Саюз (ЗША усталявала з Масквой дыпламатычныя адносіны толькі на пачатку 30-х гадоў) — аднак жа гісторыкі адлічваюць тэрмін утварэння савецкай дзяржавы па факце, з 7 лістапада 1917 года, што лагічна (ці мо ўсё ж варта з моманту ўсталявання дыпламатычных адносін з ЗША?).

БНР была прызнаная Чэхіяй, Літвой, Эстоніяй, Грузіяй, Азербайджанам, Украінай — пералік быў бы большы, каб праз дзевяць месяцаў свайго ўтварэння новая беларуская дзяржава не была б патопленая ў крыві бальшавіцкімі войскамі. БНР мела ўсе асноўныя атрыбуты дзяржаўнасці — бел-чырвона-белы сцяг, герб «Пагоня», вышэйшы орган (Раду), урад і дыпламатычныя місіі ў некаторых краінах.

**2. Нібыта БНР была утвораная нямецкім кайзерям, а Рада БНР дзейнічала па загадзе з Берліна.**

У звароце нямецкаму Імперскаму канцлеру кіраўнік далегацыі БНР нагадваў, што «Рада звярнулася да носьбітаў Вярхоўнай улады Нямеччыны з просьбай аб абароне беларускай дзяржаўнасці і яе падтрымцы. На абодва гэтыя звароты з боку Нямеччыны паступіў адказ, з якога вынікае, што перашкодай да прызнання незалежнасці Беларусі з'яўляецца Брэсцкая дамова паміж Нямеччынай і Расійскай Савецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай, паводле якога Нямеччына абавязалася не падтрымліваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі Расіі».

У цытаваным вышэй лісце ўтрымліваецца яшчэ адзін заклік да нямецкага ўраду «афіцыйна прызнаць незалежасць Беларусі і даць магчымасць Беларускаму ўраду ажыцняўляць паўнамоцныя функцыі дзяржаўнага будаўніцтва і кіравання, а роўна і арганізацыю ўзброенай сілы ў мэтах самаабароны... Дэлегацыя мяркуе, што такія спрыяльныя стасункі з боку Нямеччыны паслужаць падставаю для сяброўскіх адносін абодвух дзяржаў у будучым».

Зварот кіраўніцтва новаўтворанай дзяржавы з просьбай аб яе прызнанні да іншых, тым больш магутных дзяржаў (у дадзеным выпадку да Нямеччыны) — абсалютна натуральная з'ява; якраз ненармальна, калі такія крокі не робяцца. Дарэчы, аналагічны зварот быў накіраваны і да Аўстрыі.

Звернем увагу — гаворка ідзе пра раўнапраўныя адносіны, Беларусь успрымаецца кіраўніцтвам БНР як сувярэнная дзяржава, якая павінна вырашаць свой лёс самастойна. Іншымі словамі, лёс гэты павінен вырашацца ў Менску, а не ў Берліне, у Маскве ці недзе яшчэ.

Аднак бальшавіцкая Масква і кайзераўскі Берлін без удзелу беларусаў вырашылі лёс нашай краіны, падзяліўшы яе на кавалкі. Што было і нядзіўна — цяпер апублікавана шмат дакументаў, якія пацвярджаюць, што вяртанне Леніна ў Расію і арганізацыя бальшавікамі кастрычніцкага перавароту былі фінансаваныя нямецкім Генштабам.

Яшчэ адным абвяржэннем заяў пра нібыта «пракайзэраўскі» характар БНР могуць быць шматлікія заявы і ноты пратэсту Урада БНР адносна нямецкай палітыкі: «Нямецкая акупацыя пазбавіла Беларускі ўрад магчымасці стварыць неабходную ўзброеную сілу для адстойвання недатыкальнасці сваёй тэрыторыі» (Нота пратэсту Савету Міністраў БНР 8 студзеня 1918). «Падчас знаходжання немцаў на беларускай тэрыторыі яны вялі палітыку заігрывання з бальшавікамі і, нягледзячы на неаднаразова распачатыя Радай БНР хадайніцтвы, не дазволілі прыступіць да стварэння свайго войска" (Зварот дыпламатычнай місіі Рады БНР у Латвіі і Эстоніі да Кіраўніка дзярждэпартаменту ЗША).

Праўда, калі падчас нямецкай акупацыі Рада БНР і яе ўрад маглі існаваць легальна, дык на акупаванай Польшчай тэрыторыі сябры Рады БНР былі арыштаваныя, роўна як і лідэры беларускіх палітычных партый (Нота міністра замежных спраў БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі, сакавік 1920).

Такім чынам, за часы свайго кароткага існавання БНР ніколі не была «пранямецкай» і «пракайзераўскай», як не была яна і «прапольскай». З тым жа, што БССР была «прарасійскай» і «прамаскоўскай», не будуць спрачацца і лукашэнкаўскія гістарыёграфы. Чаго каштавала беларускаму народу сталінская калектывізацыя, знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі, масавыя рэпрэсіі і пераўтварэнне краіны ў вайсковы «заходні фарпост СССР» — паўтараць не трэба.

**3. Нібыта Рада БНР склала свае паўнамоцтвы перад урадам БССР; кіраўніцтва БНР вярнулася ў Беларусь.**

На сваім пасяджэнні 15 кастрычніка 1925 года ў Берліне Савет Міністраў БНР на чале з А.Цвікевічам прыняў рашэнне «абвясціць ад сённяшняга дня ўрад БНР зліквідаваным і спыніўшым сваю дзэйнасць». Шмат якія міністры БНР сапраўды вярнуліся ў БССР — і пазней былі расстраляныя. Гэта гістарычны факт. Але фактам з'яўляецца і тое, што паўнамоцтвы склаў толькі прызначаны Радай Савет Міністраў (урад), а не сама Рада БНР. Відавочна, спачатку камуністычныя, а потым і лукашэнкаўскія прапагандысты гуляюць на блізкасці гучання слоў «урад» — «рада». У адрозненні ад Савету Міністраў БНР, Рада БНР як легітымны вышэйшы орган БНР захавала свае легітымныя паўнамоцтвы і захоўвае іх па сённяшні дзень.

**4. Нібыта ў часы другой сусветнай вайны БНР супрацоўнічала з нямецкімі акупантамі.**

Рада БНР не магла супрацоўнічаць з акупантамі хоць бы таму, што знаходзілася па-за межамі Беларусі. У прыватнасці, Прэзідэнт Рады БНР Васіль Захарка вымушаны быў жыць у Празе; пра ягоныя ўзаемаадносіны з немцамі можа сведчыць хоць бы тое, што пасля яго смерці нямецкія акупацыйныя ўлады ў Чэхіі забаранілі на ягоным надмагіллі зрабіць надпіс. Пасля смерці сп. Захаркі прэзідэнтам БНР быў Абрамчык, які таксама быў у выгнанні.

У часы нямецкай акупацыі ў Беларусі дзейнічала Беларуская Цэнтральная Рада на чале з Р.Астроўскім, якая стасункаў з Радай БНР не мела.

**5. Нібыта «недавно какой-то Сурвилла появился, девяносто три года ему, создал в США руководство некое, короновали Позняка» (з выступу Аляксандра Лукашэнкі ў расійскай Дзяржаўнай Думе, 28 кастрычніка 1999 г.).**

Цяжка каменціраваць Лукашэнку, бо часам з патоку ягонай свядомасці немагчыма вылучыць нейкую канкрэтную думку. І тым не менш...

Ні Канстытуцыяй ЗША, ні статутам арганізацый беларускай дыяспары пасада «караля» не прадугледжаная. У ЗША наогул не прызнаюцца саслоўныя тытулы кшталту «барон», «граф», «герцаг» (а дэпутатаў і прэзідэнтаў прызнаюць толькі законна абраных). Што да Рады БНР, дык у яе склад Зянон Станіслававіч Пазьняк не ўваходзіць, хаця яму гэта прапаноўвалася (Пазьняк устрымаўся з пэўных палітычных меркаванняў).

11 красавіка 1936 года ў Стоўбцах у сям'і настаўніка і мастака Уладзіміра Шыманца нарадзілася дзяўчынка, якой далі імя Івонка, з чаго і вынікае, што цяперашняя Старшыня (прэзідэнт) Рады БНР — жаночага полу, і што ёй яшчэ вельмі далёка да 93 гадоў.

Спадарыня Сурвілла скончыла Сарбонскі ўніверсітэт (Парыж) па спецыяльнасці «мовазнаўства» — вывучала скандынаўскія мовы. Акрамя таго, свабодна валодае англійскай, французскай і іспанскай. Роднай мовай лічыць беларускую. Мае двух дачок (Ганна — матэматык, Паўлінка — музыказнаўца, нядаўна абараніла дысертацыю і стала прафесарам) і ўнукаў. З 1969 года працавала кіраўніком аддзела ў Канадскім фэдэральным бюро перакладаў, з 1989 і да моманту абрання старшынёй Рады БНР у 1997 годзе ўзначальвала Канадскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, які сабраў і перадаў дапамогу ў мільёны долараў.

Што да складу Рады БНР, дык хаця ў яе ўваходзяць і паважныя людзі сталага веку, але пасля рэарганізацыі ў 1997 годзе ці не палову складаюць асобы маладзейшыя за 40 гадоў (а самаму маладому няма і 30). Гэта — эканамісты, юрысты, навукоўцы, выкладчыкі, прадпрымальнікі, праграмісты, мастакі, журналісты (прычым людзі не апошнія ў сваіх прафесіях). Яны жывуць у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, Нямеччыне, Чэхіі, Літве, але робяць усё магчымае, каб Беларусь вярнулася да дэмакратыі.

**Матэрыял перадрукаваны з газеты "Народная Воля"**

# КРАМА

**адзін з самых вядомых беларускіх рок-гуртоў. Нажаль, апошнім часам гурт нячаста бэсціць слухачоў сваім з'яўленнем на сцэне. Прыхільнікі беларускага року ўжо даўно сумуюць па новых працах гэтай каманды. Для рэгіёнаў з'яўленне «КРАМЫ» увогуле экзотыка. Зімовы канцэрт у Гародні пераўтварыўся ў сапраўднае свята. Нягледзячы на стомленасць пасля канцэрту, саліст гурта Ігар Варашкевіч з задавалненнем дзяліўся сваімі думкамі з прадстаўнікамі прэсы.**



**Якія найбольш традыцыйныя пытанні вам ужо парадкам надаелі?**

Куды падзелася "Крама"? У "Крамы" крызіс... "Крама" нічога не робіць...

**Што вы звычайна адказваеце?**

Што "Крама" ёсць... ну дык я зноў адкажу..."Крама" ёсць, "Крама" працуе, у нас няма грошай запісаць альбом

**У "Крамы" чатыры альбомы. Калі выйшаў апошні, вы не нагадаеце?**

Павінен ён быў выйсці ў 1995 годзе, а выйшаў у 98-ым.

**Лічыцца, што закрываць канцэрты гэта ганаровае месца, а вы гралі ў сярэдзіне.**

Для нас розніцы зараз няма, мы гэтым перахварэлі ўжо даўно. Раней было модна граць апошнімі, а цяпер мы заўсёды імкнемся граць у сярэдзіне – гэта самы нармальны час.

**А вы не нагадаеце імены, прозвішчы ўсіх удзельнікаў "Крамы", хто сення прыехаў і хто наогул у вас грае?**

Нагадаю: Сяржук Трухановіч—гітара, Юрась Фядзюк – бас гітара, Андрэй Лявончык – клявішы, Андрэй Філатаў – бубны, Ігар Варашкевіч – вакал, губны гармонік, Клаус Белезняк, Аляксандар Белезняк ён жа Клаус – гукаапературар.

**Ігар, што вы лічаце патрыятызмам? Важна, каб чалавек размаўляў па-беларуску, ці можна быць патрыетам і гаварыць па русску, проста жыць у гэтай краіне і любіць яе?**

Так як я размаўляю і па-беларуску, і парасейску, гэта для мяне не прынцыпова, хаця, можа быць трэба размаўляць толькі па-беларуску. А што датычыцца патрыятызму... Я магу проста расказаць... Вось мы ехалі з Бярэсця ў Гародню, і па дарозе ну проста глядзелі праз шкло аўтамабіля на краявіды, і Клаус, наш гукаапературар, сказаў: "Як можна кінуць гэту зямлю!?" Я з ім згодзен на сто, на дзвесце, на тысячу працэнтаў. Хаця глядзець быццам бы няма на што, ну тут такі снежань яшчэ цікавы, нейкія рудыя колеры, тут ўжо зяленая трава вырасла, такі настрой цікавы... Я нарадзіўся тут на гэтай зямлі, я хачу тут жыць, нікуды не хачу ад'язжаць, таму што гэта мая Радзіма, і навошта я павінен яе аддаваць некаму, хто лічыць што гэта частка Расеі, ці што.

**А вы шмат ездзіце?**

Не не шмат. Зараз не шмат. Гэта першы наш выезд, ну акрамя Басовішча, за апошнія, напэўна, два, тры гады.

**Скажыце, вашыя песні змяняюцца з цягам часу? Рэпертуар у чым змяняецца, стылістыкай ці проста тэкстамі, а дух наогул застаецца той самы?**

У прынцыпе, нічога не змяняецца, у гэтым свой кайф, гэта традыцыйная музыка, якая ніколі не састарэе, гэта проста Rock'n'Roll.

**Некаторыя лічаць, што рок па-беларуску проста не можа існаваць.**

Гэта пытанне задавалі пятнаццаць год таму. Нешта змяняецца, нешта не змяняецца – усе гэта залежыць ад настрою. Я ўжо не раз адказваў, як можа "Rolling Stones" змяніць стыль? Ці "AC/DC" змяніць стыль – такога не можа быць. Яны зрабілі гэты стыль, гэтую музыку, яны не могуць узяць і пачаць граць нешта зусім іншае.

**Як вы ставіцеся да беларускіх гуртоў, якія зараз узнесліся даволі высока, "Ляпіс", "Лепрыконсы"? Яны граюць больш камерцыйную музыку. Вы лічыце, што гэта іх посьпех, ці ваш посьпех і іх посьпех – розныя рэчы?**

Шчыра кажучы, мяне гэта не вельмі цікавіць, таму што я слухаю не "Ляпісаў" і не "Лепрыконсаў". Ну "Ляпісы" – нармальныя хлопцы, яны даволі бруду з'елі ў свой час. "Лепрыконсы" проста на іх хвалі падняліся. Ну граюць, посьпех, добра напэўна.

Апошній час я слухаю "Machinehead", "Deep Purple" ці "Led Zeppelin" – вось гэта мяне хвалюе.

**Да вас часта звяртаюцца маладыя людзі, якія мараць стварыць, ці ўжо стварылі свой гурт, паказваюць свае работы?**

Звяртаюцца не вельмі часта, і тыя хто звярталіся, граюць музыку, якая мне не вельмі блізкая.

**Як вы лічыце, якая музыка мае права на існаванне ў Беларусі?**

Музыка павінна быць (не істотна, расейская яна, беларуская, ангельская, ці амерыканская) павінна быць нармальная і якасная, і ў ёй павінна быць нейкае рацыянальнае зерне. Усё гэта выяўляецца, ў прынцыппе, з часам. Калі я напісаў песню "Стэфка" ў 85-м годзе – яе слухаюць праз пятнаццаць год, ці "Слуцкая брама" таксама ў той час напісана, гэта нармальна ці не?

Спадзяюся, што будуць гурты, якія зразумеюць, ёсць прыклад, ёсць Польшча. Дзякуючы польскай музыцы я стаў спяваць па беларуску, дзякуючы "Lady Pank", "Lombard" і гэтак далей, і гэтак далей... Я зразумеў, што чалавек павінен спяваць на сваёй роднай мове.

**Прыязджайце часцей !!!**

Дзякуй вам. Слухайце сваё !!!

***P.S. Не магу не дадаць крышачку ад сябе. «Крама» уразіла сваёй прафесійнасцю, якасцю і чысцінёй гуку і з кожнай песняй усё больш мацнела пачуццё гонару, што на Беларусі ёсць свае "Led Zeppelin", "Deep Purple" і "Lady Pank".***

---

# РОЎНАСЦЬ

**Вэрфтфуль (Германія). З 27.12.2000 па 2.01.2001 тут праводзіўся семінар, тэмай якога была "Роўнасць". У адукацыйны цэнтр імя Курта Лёвенштэйна з'ехаліся дэлегацыі з Беларусі, Украіны, Германіі, Польшчы, Літвы, Славакіі, Ірландыі і Швецыі.**

Удзельнікі семінару былі падзелены на групы, у якіх праводзіліся дыскусіі на тэму роўнасці ў пераразмеркаванні матэрыяльных сродкаў, у адукацыі, роўнасці паміж жанчынамі і мужчынамі, а таксама паміж рознымі этнічнымі групамі.

Чаму менавіта "Роўнасць" была выбрана тэмай семінару? Справа ў тым, што гэтае паняцце ўключае ў сябе вельмі шмат рэчаў, за якія змагаемся мы як маладыя сацыял-дэмакраты: свабоду, дэмакратыю, талерантнасць, правы чалавека і г.д. Барацьба за роўнасць – элемент, які характарызуе сацыял-дэмакратычны рух ва ўсім свеце ад самага яго ўзнікнення.

Мы, як маладыя сацыялісты і сацыял-дэмакраты, змагаемся за нашу ўтопію, дзе ўсе роўныя паміж сабою. Мы павінны бачыць змены ў свеце за апошнія гады. Напрыклад, у Еўропе адбылася фармальная дэмакратызацыя краін былой Варшаўскай дамовы. Але, нажаль, нельга прывесці прыкладаў сапраўднай роўнасці як у краінах Заходняй, так і Усходняй Еўропы, ці дзесьці яшчэ ў свеце. Да цяперашняга часу можна заўважыць дыскрымінацыю людзей паводле іх паходжання, веры, полу, сэксуальнай арыентацыі і г.д.

Для маладых сацыялістаў і сацыял-дэмакратаў роўнасць – фундаментальная частка ідэалогіі. Вось таму мы размаўлялі на семінары менавіта аб роўнасці. Але трэба зазначыць, што гэта былі не проста дыскусіі і аповяды аб сітуацыях ў краінах дэлегатаў. Удзельнікі працоўных груп "Адукацыя", "Пераразмеркаванне багаццяў", "Пол" і "Этнічнасць" абменьваліся візіямі на будучыню і распрацоўвалі стратэгіі барацьбы за роўнасць.

Падчас семінару ўдзельнікі мелі магчымасць навучыцца працаваць у Інтэрнэце, праводзіліся здымкі двух відэафільмаў, сцэнарыі якіх складалі ўдзельнікі відэагруп. У тэатральнай і радыёгрупах можна было рэалізаваць свае творчыя здольнасці .

Вельмі прыемна адзначыць, што на працягу ўсяго семінару панавала атмасфера добразычлівасці. Дэлегаты з розных краін Еўропы разам святкавалі Новы год, што яшчэ больш аб'яднала людзей з рознымі мовамі. Усе ўдзельнікі абмяняліся адрасамі са сваімі новымі сябрамі і, ад'язджаючы, дамовіліся сустракацца ў будучыні.

**Інэса Куршук**

## ПАДТРЫМКА ПРЭЗЫДЭТА?.. ЯК ГЭТА БЫЛО

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, артыкул 33: "Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне..."**

Пры гэтым усім вядома, як улады у нашай краіне даюць магчымасць выказаць свае погляды, або прыцягнуць увагу жыхароў Гродна да нейкай праблемы. Амаль што ўсе замоўленыя грамадскія акцыі, у прыватнасці пікеты, чыноўнікі пераносяць у бязлюдныя месцы на ўскрайку горада, здараецца што і ў цёмны час сутак. Кожны раз мясцовыя ўлады тлумачаць гэта тым, што ёсць нейкі міфічны дэкрэт прэзідэнта, у якім спецыяльна вызначаны месцы правядзення масавых мерапрыемстваў. Некалькі вызначаных крапак кідаюцца ў вочы і засядаюць у памяці. Гэта: лясны масіў Пышкі, стары аэрапорт... Зручныя месцы для выказвання думак і прыцягнення ўвагі да нейкай праблемы.



Пасля некалькіх такіх адказаў і тлумачэнняў узнікла ідэя падтрымаць нашага прэзідэнта па тых правілах, якія ён сам і вызначыў. І вось у гарвыканкам паступае першая заява на правядзенне пікета ў яго падтрымку:

*«Заява*

*У сувязі з тым, што ў 2001 годзе павінны адбыцца чарговыя выбары прэзідэнта прашу дазволіць правядзенне грамадзкай акцыі (пікету) "Падтрымаем палітыку прэзідэнта". Мэтамі правядзення з'яўляецца данясенне да грамадскасці асноўных накірункаў працы прэзідэнта, асвятленне апошніх дэкрэтаў прэзідэнта. Прашу дазволіць правесці гэтае мерапрыемства з 19.00 да 21.00 гадзін 20 студзеня 2001 года ў лясным масіве "Пышкі" (месца, вызначанае дэкрэтам прэзідэнта ў кастрычніку 1999г.) у 40 кроках ад танцпляцоўкі. Плануецца ўдзел каля 20 асобаў.*

*Адказная за парадак правядзення мерапрыемства С.С. Нех*

*3.01.2001г.»*

Гарвыканкам увогуле адмаўляе правядзенню гэтага пікету, патлумачыўшы, што гэтае месца для масавых спартыўных мерапрыемстваў, а ў прыватнай размове С.Дубавец (загадчык аддзела па грамадзка-палітычных пытаннях Гродзенскага гарвыканкама) кажа толькі адно: "Ну, што ж вы так, мы ж не можам..."

Праз пэўны час у гарвыканкам паступае другая заява, якая "парушае" дэкрэт, бо там просяць месца ў цэнтры горада, у светлы час сутак, але і заяўшчык той жа і тэма пікету такая ж:

*«Заява*

*У сувязі з тым, што ў 2001г. павінны адбыцца чарговыя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прашу дазволіць правядзенне грамадскай акцыі (пікету) "Падтрымаем прэзідэнта". Мэтамі правядзення з'яўляецца данясенне да грамадскасці інфармацыі аб праведзенай працы першага прэзідэнта на карысць свайго народу, яго самаадданасць справе. Прашу дазволіць правесці гэтае мерапрыемства з 12.00 да 14.00 гадзін 10 лютага 2001 года ля прыпынка "Дом Сувязі". Плануецца ўдзел каля 20 асобаў.*

*Адказная за парадак правядзення мерапрыемства С.С. Нех.*

*25.01.2001г.»*

Гэты пікет дазваляюць, але заяўшчыка папярэджваюць аб тым, што ён нясе персанальную адказнасць за захаванне тэматыкі пікета, бо ёсць яшчэ адзін дэкрэт "за абразу прэзідэнта"...

І вось 10 лютага ў цэнтры горада моладзь разварочвае плакаты: "Не крытыкуйце прэзідэнта – ён кіруе як можа", "Няпраўда, што наш прэзыдэнт псіхічна хворы, - ён не лечыцца", "Лукашэнка найлепшы муж – мара кожнай жанчыны", "Даёш памятник президенту в Свислочи! Там и Сталин...", "Скінемся на помнік прэзідэнту" і іншыя, а таксама перакошаныя партрэты правадыра ўсіх славян. Адначасова ідзе збор грошай на помнік прэзідэнту, раздаюцца ўлёткі, ў якіх распавядаецца пра "дабрабыт" Беларусі і кожнага беларуса, і якія намаганні прыклаў да гэтага наш прэзідэнт. Гэтую моладзь прыйшлі ахоўваць амаль што ўсе міліцыянты Ленінскага РАУС (нібы сядзяць яны без працы, ім няма чым заняцца). Жыхары горада спачатку са здзіўленнем, а потым з усмешкай чытаюць плакаты, разбіраюць улёткі і ...парублю скідваюцца на помнік. Былі вядома і тыя, хто крычаў пра нейкі здзек над уладай, куды глядзіць міліцыя, але самыя міліцыянты на гэтыя воклічы адказвалі толькі адно: "Мы ахоўваем іх ад такіх, як вы", і самыя, хаваючыся ад двух відэакамер, пацiху пасмейваліся.




Пікет доўжыўся каля двух гадзін, было сабрана 937 рублей на помнік прэзідэнту – на столькі ацанілі гарадзенцы працу свайго прэзідэнта за яго сямігадовы тэрмін.

**Святлана Нех**

## ДЫСКУСІЙНЫ КЛУБ "МАЛАДОЙ ГРАМАДЫ"

Развіццё праз пераадоленне супярэчнасцей... На нашу думку, пра такі падыход вырашэння праблем у Беларусі забыліся даўно, з савецкіх часоў. Але рэальная дэмакратыя – гэта і ёсць шырокая грамадская дыскусія, якая, відавочна, праяўляе спектр меркаванняў і думак супольнасці.

"Маладая Грамада" ішла да стварэння клубу доўга. Мы лічым, што ўменне адстойваць свой пункт гледжання нават перад абсалютнай большасцю – якасць, якой павінен валодаць адукаваны чалавек. З лютага, кожны першы панядзелак месяца, адбываюцца паседжанні моладзевага дыскусійнага клубу з удзелам прадстаўнікоў розных моладзевых аргнізацый.

Дыскусіі на тэмы "Маладая Грамада ўчора, сёння, заўтра" (дакладчык Валянцін Аскірка), "Мова як сродак уздзеяння. Моўны тэрор" (Мікалай Вішнеўскі), "Роўнасць паміж жанчынай і мужчынай: ці патрэбна гэта?" (Аксана Мілюн) ужо адбыліся. Паседжанні збіралі 15-20 удзельнікаў, таму мы лічым, што ў нас атрымаўся нядрэнны пачатак.

Мы запрашаем да ўдзелу ў дыскусіях усіх жадаючых, вы можаце таксама стаць самі дакладчыкам, які прадставіць праблему да абмеркавання. Калі ласка, звяртайцеся на офіс Маладой Грамады па адрасе: вул. Будзёнага, 48а-71. Або дасылайце паведамленні па электроннай пошце:

**malhr.hrodna@usa.net**

Чарговае паседжанне плануецца на 7 мая панядзелак на 19.00. Тэмай мусіць быць "Сям'я. Сучасныя ўяўленні, трансфармацыя каштоўнасцяў".

*Запрашаем!*

# МАЛЬМЁ 2000

**Прайшло больш за паўгода пасля Фестывалю IUSY (Міжнароднага саюзу сацыялістычнай моладзі, сябрам якога з'яўляецца Маладая Грамада). Падзея, якая аб'яднала больш за 6000 маладых сацыял-дэмакратаў з усіх куткоў свету, адбывалася на беразе Балтыйскага мора, шведскім Мальмё. За гэты час утрэсліся ўражанні, эмоцыі. Прапануем вашай увазе агляд гэтай супер падзеі ў моладзевым сацыялістычным руху, упершыню да якой мелі самае непасрэднае дачыненне беларускія сацыял-дэмакраты.**

**12000** ног хадзілі па полі Limhamn
прадстаўлены больш за **120** краін
**560** палатак было ўсталявана
**30000** гарачых абедаў было раздадзена
**20** гадоў прайшло з апошняга так вялікага фестывалю
**65** вогнетушыцеляў «забяспечвалі» бяспеку ўдзельнікам фестывалю
**3 000** метраў сеткі абаранялі ад парушальнікаў
**30** камп'ютэраў забяспечвалі эфектыўную працу
**110** туалетаў было дасягальна на тэрыторыі палатачнага летніку
**80** душаў рабілі ўдзельнікаў чыстымі (скажам, чысцейшымі)

Падчас правядзення фестывалю было распаўсюджана шмат друкаванай інфармацыі. Асаблівай папулярнасцю карысталася штодзённае выданне "Фестываль штодзень" (Festival Daily) на англійскай і іспанскай мовах, дзе можна было адсочваць абсалютна ўсе падзеі, якія адбыліся, ці плануюцца. На старонках выдання можна было знайсці таксама меркаванні, пазіцыю, уражанні маладых сацыял-дэмакратаў з розных куткоў свету. У 3 нумары цэлая паласа была нададзена беларускай тэме: сітуацыя ў краіне, Маладая Грамада. Вынятку з гэтага нумару вы маеце магчымасць бачыць. Мікіта Колас адказаў на пытанні карэспандэнтаў.

Цікавая рубрыка штодзённага выдання "Фестываль штодзень" дазваляе больш поўна адчуць атмасферу падзеі. Адно пытанне задавалася карэспандэнтамі пяці маладым сацыял-дэмакратам з розных куткоў свету.

***"Чаму вы актыўна ўдзельнічаеце ў палітыцы?"*** (якое абсалютна бессэнсоўна задаваць на Беларусі, таму што ў нас палітыка – выключна БРУДНАЯ справа)

**Гжэгош Казнэрскі, Польшча:** мяне турбуе сітуацыя ў Польшчы. Гэта сітуацыя хваравітая. Я хацеў бы зрабіць усё, каб яна змянілася.

**Марыя Селіцыя Герон, Аргенціна:** я думаю, што мой асабісты ўдзел – магчымасць ажыццяўляць змены. Я належу да той кагорты людзей, якія пераважна дзейнічаюць для зменаў таго, што не так, замест простага назірання.

**Горгеў Дуска, Македонія:** мы не задаволены станам краіны на сённяшні дзень. Палітыкі ў нашай краіне кіруюць добра толькі для сябе. Мы хочам быць упэўненымі, што наша краіна будзе праўдзівай дэмакратыяй.





**Генара Гуадрас, Чылі:** немагчыма не адчуваць сябе ў палітыцы пасля 17 гадоў дыктатуры. Я асабіста пачаў як лідэр студэнцкага прафсаюзу.

**Надзін Руф, Германія:** таму што я маю сваё меркаванне на тое, як павінен выглядаць Свет. Трэба быць актыўным у палітыцы, каб мець магчымасць змяніць грамадства.



***Якое самае галоўнае палітычнае пытанне для цябе?***

**Луад Нэйс, Намібія:** Жаночае пытанне! Нам неабходны сусветны рух барацьбы за правы жанчын, каб даць жанчынам ва ўсім свеце лепшае жыццё.

**Трэйсі МакМілан, ЗША:** самае галоўнае пытанне – дэмакратызацыя эканомікі. Аднак у Амерыцы сацыяльныя праблемы больш істотныя на сённяшні дзень. Нам неабходна сістэма сацыяльнага страхавання.

**Дэніэл Хансак, Германія:** нам трэба кантраляваць рынак працы і вытворчасць, каб зрабіць больш справядлівым свет, дзе кожны мае частку грамадскага багацця.

**Даніэла Матас, Бразілія:** Адукацыя! Неабходна адукацыя, каб выбраць свой жыццёвы шлях. Кожны павінен мець магчымасць атрымаць адукацыю і быць тым, кім хочаш быць.

**Чокіёнг Вангчук, Тыбет:** У свеце, я мяркую, роўнасць, справядлівасць, стабільнасць і фундаментальныя правы чалавека вельмі істотныя.

***Што застанецца ў вас з сабою ад фестывалю?***

**Жэнэ Айена, Малі:** фестываль стаў месцам знаёмства маладых сацыялістаў з усяго свету. Шмат нацыянальнасцей у адным месцы нараджае цеплыню чалавечых адносінаў, якая з'яўляецца асновай для салідарнасці паміж людзмі.

**Марк Франк, ЗША:** канферэнцыя па працы з Майкам Мурам.

**Алекс, Беларусь:** Людзі, якія змагаюцца разам за адну і тую ж ідэю.

**Аніла Асмані, Албанія:** прыемныя людзі, з якімі выдатна праводзіць час. Нацыянальны вечар грэкаў, а таксама шматлікія семінары.

**Габрыела Радрыгес, Аргеніна:** Людзі з усяго свету, са сваёй культурай. Я вельмі рада бачыць так шмат маладых людзей, якія, як і мы, змагаюцца за справядлівасць і роўнасць у сваіх краінах.

Кульмінацыяй фестывалю стала дэманстрацыя па Мальмё, фотарэпартаж з якой прапануем вашай увазе.

*Інфармацыйн бюлетэнь Гродзенскай гарадской арганізацыі Грамадскага Аб'яднання МГ «ГРАМАДА» выходзіць на беларускай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.*
*Пры перадруку спасылкі на бюлетэнь неабавязковыя.*

*Адрас для карэспандэнцыі:*
*230003, Гродна-3, а/с 62*
*E-mail:* **hramada.news@usa.net**